**ВЛАСТИ НАС ОБМАНУЛИ!**
БАРАНОВИЧСКИЕ РЕДПРИНИМАТЕЛИ ОБЪЯВИЛИ ЗАБАСТОВКУ И СОБИРАЮТСЯ ЕХАТЬ К ЛУКАШЕНКО
СТАР. 2



Веснік ПРАВААБАРОНЧЫ

№ 7 [27] 2014 / 07

**МІКАЛАЙ ЧАРНАВУС ЗА СТРАЙК ПРАДПРЫМАЛЬНІКАЎ**
АТРЫМАЎ АДМІНІСТРАЦЫЙНЫ ШТРАФ 4,5 МІЛЬЁНЫ РУБЛЁЎ
СТАР. 3



БАРАНАВІЦКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

ПАЛІТВЯЗНІ

# AMNESTY INTERNATIONAL У ГАЛАНДЫІ: РАДЫ ВЫЗВАЛЕННЮ АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА, ПРАЦЯГВАЕМ ЗМАГАННЕ ЗА МІКАЛАЯ СТАТКЕВІЧА І ЭДУАРДА ЛОБАВА

Днямі кіраўнік Праваабарончага цэнтра "Вясна" Алесь Бяляцкі атрымаў ліст ад актывістаў галандскага аддзялення Amnesty International, якія падчас зняволення беларускага праваабаронцы ладзілі даволі арыгінальныя акцыі ў яго падрымку.

"Для нас было невымоўнай радасцю пачуць пра вашае вызваленне ды пабачыць вас зноў на волі. Мы часта пра вас узгадвалі на працягу апошніх трох гадоў. У гэты час мы пастаянна правяралі, ці памятае пра вас Амбасада Беларусі ў Нідэрландах, а праз яе – і беларускія ўлады", - так пачынаецца гэты вітальны ліст.



Акцыя галандскага Amnesty International у дзень народзінаў Алеся Бяляцкага ў 2013 годзе

Сярод іншага, актывісты АІ адзначалі 51-ы дзень народзінаў Алеся Бяляцкага на прыступках Амбасады і з дапамогай 6,000 банкаўскіх пераводаў [адзін сімвалічны перавод складаў адзін еўрацэнт – рэд.] заклікалі ўлады зняць абвінавачванні ва ўхіленні ад падаткаў ды неадкладна і безумоўна вызваліць праваабаронцу. Галандскае аддзяленне АІ сабрала амаль 100 тысяч подпісаў за вызваленне Алеся.

"Мы ведаем, што вашае вызваленне не з'яўляецца безумоўным, як мы таго хацелі б. Мы будзем працягваць уважліва сачыць за становішчам у Беларусі, і нашая ўвага будзе асабліва засяроджаная на вызваленні Мікалая Статкевіча і Эдуарда Лобава, якія дасюль утрымліваюцца ў зняволенні, - гаворыцца далей у лісце. -Мы радыя, што вы можаце працягваць змаганне "Вясны" за правы чалавека ў Беларусі, і будзеце працягваць падтрымліваць нас у гэтым".

Нагадаем, што Мікалай Статкевіч, Эдуард Лобаў і Алесь Бяляцкі былі прызнаныя праваабарончай арганізацыяй Amnesty International вязнямі сумлення.

spring96.org

ПРАВААБАРОНЦЫ

## ВІЗІТ АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА Ў ВАРШАВУ СКОНЧЫЎСЯ "ЗАМІНІРАВАННЕМ"

У апошні дзень свайго візіту ў польскую сталіцу кірўнік Праваабарончага цэнтра "Вясна" Алесь Бяляцкі браў удзел у міжнароднай канферэнцыі, падчас якой распавядаў пра становішча праваабаронцаў у Беларусі. І раптам падчас яго выступу паступіў званок пра замініраванне памяшкання, у якім праходзіла мерапрыемства.

Пра гэта Алесь Бяляцкі паведаміў пасля здарэння.

Варшаўская Усходне-Еўрапейская канферэнцыя, на якую быў запрошаны беларускі праваабаронца, праходзіць 12 ліпеня ў Варшаўскім універсітэце. На гэтым штогадовым міжнародным форуме, арганізатарам якога з'яўляецца Цэнтр даследаванняў Усходняй Еўропы пры ўніверсітэце, выступаюць вядомыя палітыкі і эксперты з усяго свету. Тэмай канферэнцыі сёлета стала трансфармацыя Польшчы і рэгіёну пасля 1989 года. Выступ Алеся Бяляцкага быў прысвечаны становішчу праваабарончых арганізацыяў у Беларусі.

"Гэты званок пра замініраванне быў падчас майго выступу. Прыехалі сапёры з сабакамі, нас выгналі з залі, але бомбу не знайшлі. Затым усе ўдзельнікі мерапрыемства вярнуліся на свае месцы і я працягнуў свой выступ", - распавёў праваабаронца.

Нагадаем, першы пасля вызвалення візіт Алеся Бяляцкага ў Польшчу праходзіць з 9 па 12 ліпеня. Цягам гэтых дзён у насычаным графіку праваабаронцы адбыўся шэраг афіцыйных сустрэчаў - з міністрам замежных спраў Польшчы Радаславам Сікорскім, з кіраўніком Канцылярыі Прэзідэнта Польшчы Яцэкам Міхалоўскім, з дэпутатамі парламенцкай камісіі па знешніх пытаннях польскага Сейма. Таксама праваабаронца сустракаўся з прадстаўнікамі польскіх і беларускіх НДА і польскімі журналістамі.

spring96.org

## ТБМ просіць вярнуць беларускую мову ў заканадаўчыя акты




Сакратарыят Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны напрыканцы чэрвеня звярнуўся ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі з прапановай аб вяртанні беларускай мовы ў нацыянальнае заканадаўства.

Цяпер амаль усе законы ў нашай краіне прымаюцца толькі на рускай мове і не існуе афіцыйнага перакладу іх на дзяржаўную беларускую мову, што з'яўляецца парушэннем дзеючай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, - канстатуецца ў Звароце.

У сувязі з гэтым і з улікам артыкулаў 1, 2 і 5 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь» Сакратарыят ТБМ прапануе з 1 верасня 2014 г. усе законы і іншыя нарматыўныя прававыя акты Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь адразу прымаць на дзвюх дзяржаўных мовах, а таксама зрабіць афіцыйны пераклад дзеючых законаў, якія былі прынятыя толькі на рускай мове, на дзяржаўную беларускую мову і апублікаваць іх у прадугледжаным законам парадку.

spring96.org

## Апытанне "Intex-press" : барацьбу індывідуальных прадпрымальнікаў за свае правы падтрымалі 45%



Баранавіцкая недзяржаўная газета "Intex-press" 13 ліпеня падвяла вынікі апытання сваіх чытачоў, у якім прынялі ўдзел 387 чалавек. На пытанне папулярнай у горадзе газеты: "Як вы ставіцеся да страйку прадпрымальнікаў на рынках горада?" прагучалі наступныя адказы:

45 % чытачоў сайта падтрымалі барацьбу індывідуальных прадпрымальнікаў за свае правы, а 23 % адмоўна паставіліся да такіх дзеянняў, спаслаўшыся на тое, што сертыфікацыя прадукцыі неабходна для бяспекі пакупнікоў. 12 % апытаных таксама адмоўна паставіліся да страйку мясцовых ІПэшнікаў, адзначыўшы, што яны заўсёды знойдуць магчымасць зарабіць сабе на жыццё. 20 % прагаласаваўшых наведвальнікаў сайта intex-press.by не вераць, што прадпрымальнікі змогуць нечага дабіцца ў сёняшніх умовах працы і жыцця.

Нагадаем, што з 1 па 7 ліпеня баранавіцкія прадпрымальнікі праводзілі калектыўны страйк, выказваючы сваю нязгоду з указам Прэзідэнта № 222, які істотна ўскладніў іх працу. 8 ліпеня яны спынілі страйк і выйшлі на працу.

spring96.org

СТРАЙК

# БАРАНОВИЧСКИЕ ПРЕДПРИНИМАТЕЛИ ОБЪЯВИЛИ ЗАБАСТОВКУ И СОБИРАЮТСЯ ЕХАТЬ К ЛУКАШЕНКО

Роллеты Кооперативного рынка во вторник, 1 июля, даже не открывались - хмурые ипэшники стягивались не на рабочие места, а на «сход», чтобы коллективно решить, как жить дальше.

Страйк баранавіцкіх прадпрымальнікаў Фото: Зміцер МАКАРЭВІЧ

## Вопросы без ответов

В глубине торговых рядов выступал неформальный лидер местных предпринимателей Николай Черноус.

– Власти нас обманули! – слова оратора доносились из-за спин облепивших его людей. – Нас толкают на преступление – выполнить законно их требования невозможно!

Собравшаяся толпа соглашалась – условия государства сделают их либо нарушителями, либо безработными, ведь необходимых сертификатов не достать – таковых просто нигде не выдают. И хоть белорусские власти и разрешили торговать старым товаром до марта следующего года, риск конфискации вещей без накладных пугает людей – они боятся открывать роллеты.

– У меня двое детей, дочка старшая на платном учится, – сокрушается одна из «ипэшниц» в толпе, – а теперь я не смогу их обеспечивать. Государство, тоже мне… Столько лет все эти социальные сборы платила, а тут на тебе. Знала бы – ни копейки в казну!

Ее слова, как квинтэссенция настроений собравшихся, – все недовольны экспериментами властей в отношении малого бизнеса.

– Ну вот взамен снова разрешили нанимать рабочих, и что? – обреченно вздыхает мужчина в толпе. – Продавать то все равно нечего. Просто абсурд какой-то – это если бы человеку отрезали руки и дали перчатки: мол, вот тебе компенсация.

Значительная часть предпринимателей – люди предпенсионного возраста. Перспектива лишиться «хлеба» пугает их больше, чем остальных.

– Вот мне по законам, – жалуется торговец, – до пенсии осталось 2 года. А теперь реально подумаем – куда меня в таком возрасте возьмут на работу?



Вопросов слишком много, чтобы люди сами могли на них ответить. Собравшиеся решают идти к горисполкому, чтобы власти помогли им разобраться в ситуации и ходатайствовали на республиканском уровне – представители народа же.

Растянувшаяся колонна движется к площади Ленина, там их уже ждут коллеги с Полесского рынка.

## Кто к Лукашенко, кто на биржу труда

Холл горисполкома для таких собраний слишком тесный – людям негде разместиться. На шум внизу спускается Татьяна Чернушевич, руководитель отдела торговли и услуг горисполкома, и предлагает нескольким представителям пройти с ней в «кабинет», где их послушают.

– Что лучше, все в зал или пара человек в кабинет? – криком спрашивает Николай Черноус у своих коллег.

Ответ один – в зал. Все хотят видеть и слышать чиновников лично. После этого бастующие предприниматели поднимаются на второй этаж в зал заседаний. Однако ни через 10, ни через 30 минут никто из администрации к людям не вышел. По залу пробегает волна возмущения.

– Они даже выйти боятся, – кричит кто-то.

– Неужели во всем горисполкоме никого нет на работе? Может, у них сегодня какие-то дела поважнее, чем наш страйк? – слышатся голоса с рядов.

В отсутствии какой-либо реакции чиновников, люди начинают обсуждать планы дальнейших действий: мол, что сидеть попусту, да и скандальный декрет принимали все же не городские власти.

– Поедем прямо к Лукашенко, если на местах с нами даже говорить не хотят, – предложения сводятся к одному. – Напишем и передадим письмо в Администрацию президента – пусть думают! Налогов-то в казне не будет!

На том и порешили: делегация барановичских ИП отправится с письмом к президенту в Минск, остальные – прямиком на биржу труда. Работать теперь они не могут.

intex-press.by

ФЕМІДА

# МІКАЛАЙ ЧАРНАВУС АШТРАФАВАНЫ

Баранавіцкі гарадскі суд 21 ліпеня прызнаў індывідуальнага прадпрымальніка Мікалая Чарнавуса вінаватым ў парушэнні артыкула 23.34 ч.3 КаАП Рэспублікі Беларусь – арганізацыя і правядзенне 1 ліпеня масавага несанкцыянаванага мерапрыемства мясцовых прадпрымальнікаў на Цэнтральным кааператыўным рынку горада.

Вёў судовае паседжанне суддзя Яўген Брэган, сакратар – Вольга Ячнік. Мікалай Чарнавус яшчэ ў пачатку суда не прызнаў сябе вінаватым і адразу выказаў недавер суду, які прыняў да разгляду адміністацыйны пратакол, складзены на яго з вялікімі парушэннямі. Грамадскі актывіст сцвярджаў, што ў пратаколе не ўказаны панятыя пры выйманні яго рэчаў падчас вобшуку, бо іх і не было на самой справе. Ён дадаў, што ў пратаколе не пазначаны месца і час яго затрымання, што маёр Аляксей Гецман складаў адміністрацыйны пратакол не 15 хвілін, як у ім напісана, а 5 гадзін і адмаўляўся выклікаць яму, як інваліду 2-ой групы, хуткую дапамогу. Грамадскі актывіст паведаміў суду, што супрацоўнікі міліцыі не далі яму магчымасці азнаёміцца з матэрыяламі яго адміністрацыйнай справы пасля заканчэння яе падрыхтоўкі да разгляду ў судзе. Таму Мікалай Чарнавус і выказаў недавер суду, які прыняў да разгляду пратакол з грубымі парушэннямі адміністрацыйнага заканадаўства. Аднак суддзя Яўген Брэган не задаволіў хадайніцтва Мікалая Чарнавуса аб недаверы суду і працягнуў разгляд яго адміністрацыйнай справы.



З трох сведкаў, пазначаных у пратаколе, з'явіўся толькі дырэктар кааприынку Віталь Рахмеджанаў, які не змог падцвердзіць у судзе, што менавіта Мікалай Чарнавус быў арганізатарам несанкцыянаванага мерапрыемства 1 ліпеня.

У сваю чаргу адвакат Зоя Гаўдзей заклікала суд адмяніць вытворчасць па адміністрацыйнай справе Мікалая Чарнавуса і спыніць гэтую справу з-за адсутнасцю доказаў вінаватасці грамадскага актывіста. Аднак суддзя прызнаў Мікалая Чарнавуса вінаватым і прыцягнуў яго да адміністрацыйнага штрафу ў памеры 4,5 млн. рублёў.

Грамадскі актывіст мае намер абскарджваць гэтае рашэнне ў вышэйстаячых судовых органах.

spring96.org

БЕЗЗАКОННАСЦЬ

# МІКАЛАЙ ЧАРНАВУС БОЛЬШ ЗА 10 ДЗЁН НЕ МОЖА ВЯРНУЦЬ ПАСВЕДЧАННЕ ІНВАЛІДА

Грамадскі актывіст Мікалай Чарнавус больш за 10 дзён не можа вярнуць пасведчанне інваліда II-ой групы, якое 2 ліпеня ў яго забраў маёр міліцыі Аляксей Гецман падчас складання адміністрацыйнага пратакола па абвінавачванні ў правядзенні несанкцыянаванага мерапрыемства індывідуальных прадпрымальнікаў 1 ліпеня на гарадскім кааприынку і ў вялікай зале гарвыканкама (арт. 23.34 ч.3 КаАП).

Мікалай Чарнавус накіраваў скаргу гарадскому пракурору і патрабуе пракурорскага рэагавання на дзеянні супрацоўнікаў міліцыі. Грамадскі актывіст просіць пракурора горада абавязаць ГАУС тэрмінова вярнуць яму пасведчанне інваліда, якое яму неабходна для набыцця лекаў па ільготнаму кошту і праезду ў гарадскім транспарце.

Баранавіцкая міжраённая пракуратура не ўбачыла парушэнняў заканадаўства з боку ГАУС і паведаміла заяўніку, што ў адпаведнасці з арт. 173 Крымінальна-працэсуальнага кодэкса міліцыя мае права да 10 дзён правяраць сапраўднасць дакумента.

– Але сёння ўжо 12-ты дзень, як ў мяне забралі пасведчанне аб інваліднасці і да гэтага часу не вярнулі, – паведаміў Мікалай Чарнавус.

Мікалай Чарнавус перакананы, што чыноўнікі ствараюць для яго штучныя перашкоды і спецыяльна ўцягваюць у бюракратычную цяганіну, каб ён не займаўся грамадска-палітычнай дзейнасцю.

Вітусь Свабодскі

## Індывідуальныя прадпрымальнікі накіравалі заяву і 105 подпісаў начальніку ГАУС за вызваленне Мікалая Чарнавуса

З ліпеня, індывідуальныя прадпрымальнікі Цэнтральнага гарадскога і Палескага рынкаў напісалі заяву і сабралі 105 подпісаў за вызваленне Мікалая Чарнавуса, які цяпер знаходзіцца ў І-м хірургічным аддзяленні гарадской бальніцы пад наглядам міліцыі. Грамадскі актывіст абвінавачваецца па арт. 23.34 ч.3 КаАП – арганізацыя і правядзенне несанкцыянаванага мерапрыемства прадпрымальнікаў 1 ліпеня.

У заяве на імя начальніка ГАУС палкоўніка Вячаслава Герасімовіча адзначаецца, што Мікалай Чарнавус не ўчыніў супрацьпраўных дзеянняў, бо індывідуальныя прадпрымальнікі самаарганізаваліся 1 ліпеня і правялі сход на кааприынку і ў гарвыканкаме.

Таму яны просяць: 1) праверыць аб'ектыўнасць затрымання 2 ліпеня М. Чарнавуса, улічаючы тое, што ён з'яўляецца інвалідам II-ой групы; 2) прыняць да ўвагі 105 подпісаў ІП, якія падцвярджаюць факт самаарганізацыі прадпрымальнікаў 1 ліпеня; 3) вызваліць Мікалая Чарнавуса з-пад варты.

Каля 40 ІПэшнікаў адвезлі гэты калектыўны зварот у гарадскі аддзел міліцыі. А іх прадстаўнікі Мікалай Чарнавус-малодшы і Аляксандр Вайцешык перадалі супольную заяву з подпісамі начальніку аддзела ахоўы правапарадку і прафілактыкі падпалкоўніку міліцыі Андрэю Урублеўскаму. Супрацоўнік міліцыі, ў прысутнасці Чарнавуса-малодшага і Аляксандра Вайцешыка зарэгістраваў заяву і выказаў надзею, што, магчыма, сёння Чарнавус-старэйшы будзе вызвалены з-пад варты.

Глеб Лушынскі

### Гарвыканкам забараніў пікет, прысвечаны гадавіне прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі

Грамадскі актывіст Рыгор Грык 15 ліпеня атрымаў ліст за подпісам намесніка старшыні Баранавіцкага гарвыканкама Дз. Касцюкевіча, у якім паведамляецца, што ўлада не дае згоды на правядзенне пікета 27 ліпеня, прысвечанага гадавіне прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР. Чыноўнік лічыць, што заяўнікі пікету Рыгор Грык, Сяргей Гоўша і Вячаслаў Болбат парушылі п. 5 Закона Рэспублікі Беларусь ад 30.12.1997г. № 114-З “Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь (у рэдакцыі Закона Рэспублікі Беларусь ад 08.11.2011г. № 308-З) і п. 4 рашэння гарвыканкама ад 16.06.2009г. № 1497 “Аб парадку правядзення масавых мерапрыемстваў у горадзе Баранавічы” (у рэд. рашэння Баранавіцкага гарвыканкама ад 05.10.2009г. № 2497).

– 27 ліпеня 1990 года Вярхоўны Савет БССР прыняў Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце БССР, але сёння гэтая падзея практычна не ўзгадваецца, таму мы хацелі нагадаць жыхарам горада Баранавічы аб асноўных ідэях нашай Дэкларацыі. Мы выканалі ўсе патрабаванні закона, а таксама заключылі пісьмовыя дамовы з міліцыяй, паліклінікай і ЖКГ, але нам традыцыйна забараняюць усе масавыя мерапрыемствы, – паведаміў Рыгор Грык.

Планавалася, што ў пікеце прыме ўдзел каля 10 чалавек.

Вітусь Свабодскі

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# ВАЛЯНЦІН СТЭФАНОВІЧ: МІНСК ВЫБАРАЧНА ЗАПРАШАЕ ДАКЛАДЧЫКАЎ

Учацвер стала вядома, што Беларусь даслала запрашэнне дакладчыкам Савета ААН па правах чалавека. Праваабаронца Валянцін Стэфановіч кажа, што наша дзяржава і раней запрашала дакладчыкаў, але падыходзіла да іх вельмі выбарачна.




Такое меркаванне ў гутарцы з Еўрарадыё выказаў Валянцін Стэфановіч.

Стэфановіч: «Яна, скажам так, дыферэнцыявана падыходзіла да запрашэння тэматычных ААНаўскіх дакладчыкаў. Напрыклад, па правах жанчын таксама ёсць спецдакладчык... А вось тэматычныя спецдакладчыкі па свабодзе мірных сходаў, па незаконных затрыманнях, па незалежнасці судовай сістэмы дагэтуль не запрашаюцца. Беларусь працягвае дэманстрацыю выбарачнага падыходу па супрацоўніцтве з ААНаўскімі структурамі».

Тым не менш Стэфановіч выказаў надзею, што ўсё ж давядзецца пабачыць у Беларусі дакладчыкаў ААН па палітычных і грамадзянскіх правах.

spring96.org

СВАБОДА СУМЛЕННЯ

# У БРЭСЦКІМ РАЁНЕ НАСТАЎНІЦА АБРАЗІЛА ВУЧНЯ ПАВОДЗЕ ЯГО РЭЛІГІЙНЫХ ПЕРАКАНАННЯЎ

Жыхар пасёлка Мухавец Брэсцкага раёна Юрый Свірэпа паскардзіўся ў міліцыю і ва ўпраўленне адукацыі на праяву рэлігійнай нецярпімасці з боку настаўніцы мясцовай школы.



Як распавёў Свірэпа, яго хлопец, які вучыцца ў 6-м класе, пабіўся з сынам настаўніцы. Па словах бацькі, пасля здарэння настаўніца назвала сына Свірэпы “ідыётам-баптыстам” і прыгразіла, што ў яго могуць быць праблемы ў школе. “Мы пабачылі агрэсію, нежаданне вырашыць праблему, а жаданне паказаць, што яна - настаўніца, і табе, маўляў, яшчэ вучыцца ў нас”, - кажа Юрый Свірэпа. Паводле яго словаў, гэта не першы выпадак падобных праяў нецярпімасці: у прыватнасці, з такім падыходам давялося сутыкнуцца і пры наведванні адной медычнай установы, калі пры патрабаванні належнага абслугоўвання гучала выказванне накшталт “вам тут яшчэ прыйдзецца лячыцца”.

Паколькі настаўніца не пажадала прынесці прабачэнні за свае паводзіны, Юрый Свірэпа паскардзіўся на яе ў міліцыю і ва ўпраўленне адукацыі. Аднак ініцыятар скаргі гатовы ў любы момант адклікаць сваю заяву, калі настаўніца прызнае сваю памылку за абразлівыя выказванні на адрас баптыстаў.

spring96.org

**“ПРАВААБАРОНЧЫ ВЕСНІК”** Баранавіцкі інфармацыйны праваабарончы бюлетэнь
**Калі парушаны вашыя правы, маеце пытанні, заўвагі ці прапановы – звяртайцеся.**
Дапамога бясплатная. Нашы кантакты: тэл. 8 029 7220957, e-mail: viasna_bar@tut.by
Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад 299 асобнікаў.
весnік ПРАВАБАРОНЧЫ